Народная Воля http://www.nv-online.info
18 СНЕЖНЯ 2018 г.

ЗВАНЫ ГОСТЬ

## Виктор МИНКОВ, режиссер:

# «Делаю, что хочу. А если будут запрещать, буду сопротивляться»

*В Минск приехали «Петербургские театральные сезоны». Это международный фестиваль, созданный более 10 лет назад и призванный представлять яркие театральные работы из Санкт-Петербурга на мировом уровне. «Петербургские театральные сезоны» объездил уже пол-Европы – Милан, Берлин, Прага, Дрезден, Марсель, Афины, Белград… А теперь прибыл в Минск, чтобы за пять дней показать пять лучших премьер петербургского сезона. Белорусских зрителей долго звать не пришлось, билеты разошлись моментально.*

Художественный руководитель проекта режиссер **Виктор МИНКОВ** поделился своими впечатлениями о первых показах:

– Я считаю, что Минск – это абсолютно свободный театральный город с продвинутой публикой. Поэтому мы не побоялись открыть свой фестиваль спектаклем режиссера Жолдака «Мадам Бовари», а это, по-моему, в хорошем смысле «вынос мозга», современный авангардный спектакль. При этом с блистательной режиссурой и не менее блистательными актерскими работами Полины Толстун и Елены Калининой. Но мы привезли также и совершенно классические спектакли – «Ночь Гельвера» и «А знаете ли вы, что такое любовь?». Минск, я знаю, ценит классику. Я очень люблю сюда приезжать, у вас удивительно чисто, спокойно, вкусно. Конечно, это немножечко «назад в СССР»…

**– Ну что вы повторяете штампы, Виктор Михайлович!**

– Ну, это внешняя оболочка города, и она совершенно не совпадает с той публикой, которая, я вижу, приходит на спектакли. И вообще, для меня зритель делится на доброжелательного и недоброжелательного, чувствующего и не чувствующего. Мой посыл «назад в СССР» не имеет плохого смысла. Меня тоже смущает, когда мы начинаем бороться с историей.

**– Тем более прошлое всегда просветит сквозь настоящее.**

– Но я абсолютно приветствую нынешнее время. Я считаю, что человек должен развиваться в свободе: что хочет, то и думать, что хочет, то и говорить. Но это не вседозволенность и не хамство.

**– Некоторые ваши коллеги-режиссеры считают, что над русским театром сгустился туман запретов и преследований. Лично вы это чувствуете?**

– Безусловно, я с большой тревогой слежу за делом Кирилла Серебренникова, я болею за Кирилла. Очень хотел бы, чтобы эта история закончилась, она не прибавляет ни авторитета русскому театру, ни спокойствия во внутренней среде.

**– Тем более в вашей стране объявлен Год театра. А что должно стоять за этими словами, по-вашему?**

– Я считаю, необходимо сделать две вещи: обеспечить достойные зарплаты бюджетникам, работающим в театре. И, второе, должна произойти колоссальная модернизация сценического оборудования.

**– Председатель Союза театральных деятелей народный артист Александр Калягин так горячо благодарил власть за Год театра... Но разве это не само собой разумеющийся шаг – заботиться о таком социальном институте, как театр?**

– Я вам скажу такую вещь. Вот мы сидим и беседуем в рамках «Петербургского театрального сезона». Но вы мне не задали вопрос, сколько это стоит и кто финансирует фестиваль. А финансирует его правительство Санкт-Петербурга – полностью все расходы: авиаперелет, провоз декораций, суточные. Поэтому и уважаемый Александр Александрович Калягин правильно сделал, что поблагодарил государство – оно выделяет полтора миллиарда рублей на Год театра.

**– Но за это, наверное, потребует подчинения? Вот вам, художественному руководителю государственного театра «Приют комедиантов», часто приходилось идти с самим собой на компромисс из-за вмешательства государства?**

– Нет. Хотя я приглашаю работать разных режиссеров и порой даже удивляюсь, когда вижу, что они делают на сцене – это совершенно не мой театр. Но это ничего не значит, если это талантливо, современно и востребовано публикой. При этом, хочу заметить, режиссер – это художник, он в театре творит. Работа может получиться, а может и не получиться. И тогда я снимаю спектакль.

**– То есть вам позволяют еще и делать ошибки?**

– Я вообще хотел бы, чтобы мне показали, что у нас так очень сильно запрещается.

**– Например, запрещена к показу комедия в декорациях блокадного Ленинграда «Праздник».**

– Во-первых, я ее не видел, обсуждать не могу. Во-вторых, я не сторонник консервативных взглядов, хотя у меня, коренного питерца, в блокаду умерла прабабушка. Но ведь ни для кого не секрет, что во время страшной блокады Ленинграда партийная верхушка жрала икру и пирожные, как в лучшие времена Людовика XIV. Это было, и это история. И об этом писали Даниил Гранин и Алесь Адамович в «Блокадной книге». Но обсуждать кино не считаю нужным, пока не увижу.

**– Но, наверное, могли бы уже увидеть, но не было желания?**

– Пока нет, вы правы. Но я живу по принципу: не судите да не судимы будете. Я живу своей внутренней жизнью – в гармонии и свободе. Делаю, что хочу. А если будут запрещать, буду сопротивляться.

**Елена МОЛОЧКО.**

ГОЛАС З-ЗА БУГА

# Як беларусы змагаліся з нацыстамі на заходніх франтах Другой сусветнай вайны

*18 мая 1944 года салдаты 2-га Польскага корпуса, у склад якога ўваходзілі ў тым ліку ўраджэнцы Беларусі, узялі нямецкую крэпасць Монтэ-Касіна ў Італіі. Гэтым самым была адкрыта дарога да Рыма. А разам з тым войскі антыгітлераўскай кааліцыі расчысцілі сабе яшчэ адзін шлях да канчатковай перамогі над гітлераўскай Германіяй і яе саюзнікамі.*



**Юры Грыбоўскі,** доктар гістарычных навук, прафесар кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральна-Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта, адным з першых пачаў вывучаць удзел беларусаў у баях у Італіі. У свой час ён абараніў у Беларусі і Польшчы кандыдацкую дысертацыю пра ўдзел беларусаў у польскім войску. Ён аўтар каля 100 публікацый, прысвечаных гэтай праблеме. Пра ўклад нашых землякоў у разгром нацызму карэспандэнт «Народнай Волі» пагаварыў з вучоным.

**– Некаторыя даследчыкі бітву ля Монтэ-Касіна называюць адной з найбольш крывавых баталій Другой сусветнай вайны. Што там адбылося?**

– Узвышша Касіна поруч з іншымі было адным з умацаваных раёнаў на нямецкіх абарончых лініях «Густава» і «Гітлер», якія праходзілі ад Адрыятычнага да Тырэнскага мора. Гэтыя лініі перакрывалі далейшае прасоўванне англа-амерыканскіх войск на Рым. Першыя спробы авалодаць узвышшам Касіна войскі саюзнікаў зрабілі яшчэ ў студзені 1944 года. Усе спробы ўзяць вяршыню канчаліся, аднак, паражэннямі. 24 сакавіка 1944 года камандаванне саюзнікаў вырашыла накіраваць у раён Монтэ-Касіна 2-гі Польскі корпус пад камандаваннем генерала Уладыслава Андэрса. У наступленні польскім вайскоўцам прызначалася адна з найцяжэйшых задач. Першы штурм пачаўся 11 мая, аднак польскія часці, несучы значныя страты, былі вымушаны адысці. У выніку другой атакі 17–18 мая нямецкая абарона была прабіта. 18 мая на руінах кляштара Святога Бенедзікта польскія салдаты ўзнялі брытанскі і польскі сцягі.

**– Сярод палякаў былі, наколькі вядома, і беларусы. Колькі? І як яны там апынуліся?**

– Гэта былі грамадзяне Рэспублікі Польшча, жыхары заходнебеларускіх зямель, якія ў 1939–1941 гадах трапілі ўглыб СССР як ваеннапалонныя альбо ахвяры сталінскіх дэпартацый. У 1941 годзе яны, як польскія грамадзяне, добраахвотна ўступілі ў Польскую армію, якая тады фарміравалася ў СССР на падставе пагаднення паміж польскім эміграцыйным і савецкім урадамі. У 1942 годзе гэта армія была эвакуіравана ў Іран, а адтуль у Ірак і на Блізкі Усход, дзе ў 1943 годзе ўзнік 2-гі Польскі корпус. У складзе корпуса служыла не менш як дзве тысячы беларусаў. Пад Монтэ-Касіна больш за ўсё беларусаў знаходзілася ў 3-й дывізіі карпацкіх стралкоў і 5-й крэсовай пяхотнай дывізіі. Менавіта гэтыя злучэнні апынуліся на першай лініі агню і панеслі найбольшыя страты. Вядомы прозвішчы соцень беларусаў, якія за ўдзел у бітве атрымалі Памятны крыж Монтэ-Касіна. Некалькі былі ўзнагароджаны вышэйшай польскай вайсковай узнагародай – Крыжам Ордэна Віртуці Мілітары.

Пра гераізм беларусаў з 2-га корпуса падчас бітвы сведчаць шматлікія рапарты, успаміны польскіх афіцэраў. Подзвігі нашых землякоў апісаў вядомы польскі журналіст, ураджэнец сучаснага Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці Мельхіёр Ванькові́ч. Адзін з удзельнікаў бітвы, наш зямляк Пятро Сыч у сваіх успамінах сведчыў, што беларусы «шчодра абмылі сваёй крывёй шурпатыя, дзікія горы каля манастыра Монтэ-Касіна». Пасля бітвы ля падножжа гары Касіна былі створаны польскія вайсковыя могілкі, на якіх пахаваны салдаты 2-га корпуса. Аб прысутнасці беларусаў сярод пахаваных яскрава сведчаць праваслаўныя крыжы. Я налічыў іх ажно 52: 90 працэнтаў пахаваных пад імі – ураджэнцы Беларусі. Пры гэтым рэлігійная прыкмета дазваляе нам вызначыць толькі мінімальную колькасць беларусаў, якія загінулі, бо сярод салдат каталіцкага веравызнання таксама былі ўраджэнцы Беларусі.

У бітве бралі ўдзел тыя, хто пазней стаў вядомым дзеячам беларускай эміграцыі: спявак Пятро Конюх, Віктар Астроўскі – сын Радаслава Астроўскага, Аркадзь і Мікалай Міклашэвічы – родныя браты Ларысы Геніюш. Адначасова ў розных выданнях з'яўляецца інфармацыя, што пад Монтэ-Касіна ваявалі такія вядомыя беларусы, як Кастусь Акула, Аляксандр Надсан. Гэта памылка, бо ў той час названыя асобы з'яўляліся кадэтамі камандзірскай школы Беларускай краёвай абароны на акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі, а ў 2-м Польскім корпусе ў Італіі апынуліся толькі на пачатку 1945 года. Яны бралі ўдзел у баях на італьянскім фронце, напрыклад, за Балонню, але пад Монтэ-Касіна іх дакладна не было.

**– Якім чынам звязаны з Беларуссю генерал Уладыслаў Андэрс?**

– Напярэдадні Другой сусветнай вайны ён камандаваў Навагрудскай кавалерыйскай брыгадай Войска Польскага, штаб якой знаходзіўся ў Баранавічах. У 1939 годзе брыгада ўдзельнічала ў баях з нямецкімі захопнікамі.

**– Ці жывуць яшчэ на свеце беларусы, якія ўдзельнічалі ў бітве ля Монтэ-Касіна?**

– На пачатку 2000-х гадоў, калі я пачаў даследаваць гэту тэму, у Беларусі яшчэ жылі некалькі ветэранаў. Мне пашчасціла сустрэцца з Якубам Конанам, які жыў пад Маладзечна. Пазней, калі я наведаў Англію, то пазнаёміўся там з іншымі землякамі. Пра іх лёсы вы можаце прачытаць у кнігах «Забытыя жаўнеры польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны: матэрыялы і ўспаміны» (2003), «Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна» (2004), а таксама ў маёй манаграфіі «Беларусы ў польскіх рэгулярных ваенных фарміраваннях у 1918–1945 гадах», якая выйшла ў 2006 і 2007 гадах на беларускай і польскай мовах.

**– Як захоўваецца памяць пра бітву ля Монтэ-Касіна ў Беларусі і за мяжой?**

– У Беларусі на працягу доўгіх гадоў пра ўдзел у бітве нічога не было вядома. У БССР пра гэта не гаварылася па ідэалагічных прычынах, а «андэрсаўцы» нават не лічыліся ветэранамі вайны. Увесну 1951 года адбылася масавая дэпартацыя сямей «андэрсаўцаў» у Іркуцкую вобласць на спецпасяленні. Пасля распаду СССР сітуацыя змянілася, але па-ранейшаму веды пра тых, хто ў гады вайны змагаўся ў шэрагах польскіх вайсковых фарміраванняў на заходніх франтах Другой сусветнай вайны, былі вельмі малыя. Гэта тычылася як шырокіх колаў грамадства, так і навукоўцаў. Мне давялося шмат папрацаваць у архівах Мінска, Варшавы, Лондана, каб стварыць поўную карціну ўдзелу беларусаў у тых падзеях. Але для большасці беларусаў гэта па-ранейшаму «белая пляма». Пацвярджае гэта наступны прыклад. Калі выйшла мая кніга, да мяне пачало звяртацца многа людзей з розных куткоў Беларусі, якія знайшлі ў ёй звесткі пра сваіх сваякоў. Раней яны практычна нічога не ведалі пра лёс блізкіх. Інакш справа выглядала на эміграцыі. Пасля 1945 года большасць салдат 2-га корпуса засталася за мяжой. Яны памяталі пра бітву і шанавалі памяць пра ўдзел у ёй сваіх землякоў: у 1979 годзе ўсклалі аздоблены бела-чырвона-белай стужкай вянок на могілках ля падножжа гары Касіна ў сувязі з 35-й гадавінай бітвы.

**– У якіх яшчэ бітвах на заходніх франтах Другой сусветнай вайны адзначыліся беларусы?**

– Геаграфія даволі шырокая. Пэўная колькасць нашых землякоў трапіла ў розныя фарміраванні, якія ўваходзілі ў склад Польскіх узброеных сіл на Захадзе. Гэта 1-я танкавая дывізія пад камандаваннем генерала Станіслава Мачака, што ў 1944–1945 гадах удзельнічала ў баях у Францыі, Бельгіі, Заходняй Германіі. Вядомы прозвішчы беларусаў з Асобнай парашутнай брыгады, якая брала ўдзел у найбуйнейшай паветранадэсантнай аперацыі заходніх саюзнікаў «Маркет Гадэн» у Галандыі ў верасні 1944 года. Беларусы былі сярод экіпажаў ваенных судоў у Міжземным моры, пілотамі ваенна-паветраных сіл.

**– Што сённяшняму пакаленню можа даць памяць пра гэтыя падзеі Другой сусветнай вайны?**

– Перш за ўсё ўсведамленне таго, што прадстаўнікі беларускага народа змагаліся з ворагам не толькі на ўсходнім фронце Другой сусветнай вайны. Усе цудоўна ведаюць пра гераізм беларусаў у радах Чырвонай Арміі. Але вобраз удзелу нашага народа ў барацьбе з нацызмам будзе няпоўны без ведаў пра іх подзвігі на Захадзе. Безумоўна, беларусаў там было значна менш, чым у Чырвонай Арміі, але ўсе яны варты павагі і ўдзячнай памяці нашчадкаў.

**Размаўляў Віктар КОРБУТ.**
*Варшава.*

КНІГАРНЯ

## «Сымон-музыка» без цэнзуры




Выйшла з друку факсімільнае перавыданне знакамітай паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», якая ўпершыню прыйшла да чытача роўна 100 гадоў таму – у 1918-м. У новым выданні адноўлены ўсе цэнзурныя скарачэнні, якіх, паводле слоў ініцыятара праекта Глеба Лабадзенкі, у савецкіх варыянтах налічвалася некалькі дзясяткаў, што перашкаджала адэкватнаму прачытанню паэмы. Кансультаваў бесцэнзурнае выданне «Сымона-музыкі» сын песняра Міхась Міцкевіч.

ЧУЛІ?

## Заснавана новая літпрэмія – «Празрысты Эол»

Прэміяй «Празрысты Эол», якую заснавалі вэб-часопіс «Літ-Раж» і адмыслова скліканая Акадэмія аўтарытэтных пісьменнікаў, будуць адзначацца найлепшыя электронныя кнігі і анлайн-публікацыі. Першых лаўрэатаў варта чакаць вясной 2019 года. Абіраць пераможцаў шляхам патаемнага галасавання будуць пісьменнікі-акадэмікі, сярод якіх Уладзімір Арлоў, Барыс Пятровіч, Уладзімір Някляеў, Людміла Рублеўская, Міхась Скобла, Аляксандр Фядута ды іншыя. «*Мы спадзяёмся, што прэмія станоўча адаб'ецца на якасці электроннай беларускай літаратуры*», – заявіў сябра аргкамітэта прэміі Алесь Аркуш. Патрабаванні да намінаваных твораў: беларуская мова, публікацыя ў інтэрнэце, аб'ём не менш за 10.000 знакаў (без прабелаў). Заяўкі дасылаюцца на адрас *eol.litrazh@gmail.com* да 15 студзеня 2019 года.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Зміцер Вайцюшкевіч запрашае на калядны канцэрт

*7 студзеня Зміцер Вайцюшкевіч і WZ-Orkiestra зайграюць святочны сямейны канцэрт у Мінску.*

Імпрэза стане працягам добрай традыцыі калядных канцэртаў спевака. 7 студзеня ў знаёмым слухачам Палацы культуры Шарко прагучаць выбраныя святочныя кампазіцыі Зміцера Вайцюшкевіча, а таксама найлепшыя песні з розных праектаў творцы. Некалькі новых песень прагучаць упершыню. Праграма разлічана на слухачоў усіх узростаў – весела і цікава тут будзе і дарослым, і нават самым маленькім дзеткам.

**Вера ВІР.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Грошы – на бочку

*Спартыўны арбітражны суд у Лазане адмовіўся прымаць да разгляду іск футбольнага клуба «Дынама-Брэст» у справе паўабаронцы Паўла Савіцкага.*

Нагадаем, футбаліст перайшоў у брэсцкае «Дынама» з гродзенскага «Нёмана» напрыканцы мінулага года ў якасці свабоднага агента. Аднак гродзенцы запатрабавалі кампенсацыю за падрыхтоўку футбаліста. Спачатку гаворка ішла пра 600 тысяч долараў, але арбітраж Беларускай федэрацыі футбола зменшыў суму да 265 тысяч.

Брэсцкі клуб паспрабаваў аспрэчыць і гэтую суму, але суд у Лазане палічыў, што справа не трапляе пад яго юрысдыкцыю.

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




## В Минске безработный из торговой точки вывез на тачке платежный терминал, но денег там не обнаружил

Как рассказывает БЕЛТА, идея легкого обогащения пришла в голову 41-летнему жителю столицы после распития алкоголя в компании. В этот момент в магазине ему на глаза попался не зафиксированный терминал. Мужчина быстро сориентировался, взял у знакомых тележку для транспортировки намеченного объекта и выкатил его в парк. Подручными средствами он взломал терминал, однако тот был пуст. Аппарат оставался в парке, пока его не нашли правоохранители. С заявлением о пропаже к сотрудникам Советского РУВД обратились работники торговой точки. Милиционеры установили личность злоумышленника. В отношении минчанина возбуждено уголовное дело по части 1 статьи 205 УК (кража).

ВПЕРВЫЕ В МИНСКЕ!

## 7 тысяч порций кофе и 55 тысяч литров воды

*С 21 по 27 января 2019 года Минск примет чемпионат Европы по фигурному катанию на коньках.*

Девиз фестиваля – «Живи и катайся!».

– *Жизнь и спорт – неразделимы, если ты стремишься стать профессионалом*, – считает председатель Белорусского союза конькобежцев **Юлия Комлева**. – *Мы решили творчески осмыслить это выражение и поближе познакомить страну с настоящим и будущим нашего фигурного катания. Приглашаем всех на чемпионат Европы. Вместе у нас есть все шансы сделать Минск европейской и мировой столицей ледовых видов спорта.*

На чемпионат Европы по фигурному катанию в Беларусь впервые приедут сильнейшие фигуристы континента, включая мировых лидеров. Церемония открытия чемпионата состоится 23 января, а соревнования будут проходить по субботу 26 января включительно. 21 и 22 января зрители смогут посетить официальные тренировки.

Закроет чемпионат 27 января гала-концерт с участием призеров соревнований.

Как выглядит минский чемпионат Европы-2019 по фигурному катанию в цифрах?

Участвовать в нем будет более 100 спортсменов, среди которых сильнейшие представители европейских стран.

Вместе со спортсменами приедут тренеры и обслуживающий персонал – всего около 500 человек. Работать на мероприятиях будут около 200 волонтеров, включая иностранных.

Отдел подготовки льда будет работать на площадке с 4 утра до 12 ночи. Спортсмены будут тренироваться и выступать на льду с 6 утра до 10 вечера.

За время официальных тренировок и соревнований спортсмены, их персонал, а также персонал «Минск-Арены» выпьют около 7 тысяч порций кофе.

Для чемпионата будут использованы 2 ледовые площадки – основная и тренировочная арены общей площадью 3600 квадратных метров.

Для заливки понадобится 54 000 литров подготовленной с помощью специальных фильтров и реагентов воды.

Чтобы придать льду нужный фоновый цвет, будет использовано 600 килограммов краски.

Символику чемпионата на лед будут в течение 3 дней наносить 2 бригады по 8 человек.

Билеты на чемпионат Европы по фигурному катанию в Минске – самые дешевые за последние десять лет. Абонемент на все мероприятия чемпионата стоит от 100 до 250 рублей. Абонементы на отдельные дни (включая тренировки) – от 5 до 50 рублей.

**Алина ВЕТРОВА.**

НЕСТАНДАРТ

## У Гродне абралі самую прыгожую работніцу ЖКГ

*Самую прыгожую работніцу жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гродзенскай вобласці абралі на конкурсе прыгажосці «Супер Лэдзі-2018». Конкурс становіцца традыцыйным – ён адбыўся ў Гродне ўжо чацвёрты раз.*

Сёлета ў конкурсе бралі ўдзел 12 дзяўчат ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў, якія непасрэдна працуюць у сферы камунальнай гаспадаркі, бытавога абслугоўвання, водаканала, гарадскога зялёнага будаўніцтва. Для большасці ўдзельніц гэта быў першы вопыт удзелу ў падобных мерапрыемствах, паколькі яны не з'яўляюцца прафесійнымі мадэлямі. Конкурс праводзіўся ў зале абласнога драматычнага тэатра. Вольных месцаў не было.

Паводле слоў арганізатараў, галоўная мэта мерапрыемства – папулярызацыя працы ў сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Журы ацэньвала не толькі знешнюю прыгажосць, але і артыстычныя здольнасці ўдзельніц, розум, грацыю, мастацтва дэфіле,



харэаграфічныя здольнасці, фотагенічнасць і здольнасць падтрымаць размову.

Усе ўдзельніцы конкурсу атрымалі каштоўныя падарункі, а пераможца – яшчэ і карону «Супер Лэдзі-2018». Усе ўдзельніцы мерапрыемства маюць магчымасць паехаць у турыстычнае падарожжа па Беларусі.

Пераможцай сёлетняга конкурсу «Супер Лэдзі-2018» стала спецыяліст па кадрах «Гродназеляньбуду» **Анастасія Атаповіч**. Арганізатары не выключаюць, што ў будучым магчыма правядзенне падобнага мерапрыемства і сярод мужчын, якія працуюць у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На здымку: Конкурс «Супер Лэдзі-2018» у Гродне.**

КРЫМІНАЛ

## Мужчына ў Нясвіжы павесіўся ў міліцэйскай машыне

*Следчы камітэт займаецца расследаваннем смерці мужчыны ў Нясвіжы. Як паведамляюць ва ўпраўленні ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама, мужчына ўчыніў самагубства ў міліцэйскай машыне.*

Звесткі пра гэтае расследаванне спярша з'явіліся ў канале Telegram. Там гаварылася, што расследуецца забойства хлопца супрацоўнікамі міліцыі. Сцвярджалася, быццам міліцыянты імітавалі самагубства хлопца ў міліцэйскай машыне.

Прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама Яўген Сачак абверг інфармацыю пра імітацыю самагубства: *«Гаворка ідзе пра суіцыд, а не пра забойства. Вышуковы аддзел Нясвіжскага раёна праводзіць праверку. Унутраная праверка ў нас таксама праводзіцца, яна на стадыі завяршэння. Але інфармацыя пра забойства трактуецца няправільна. Мы адразу гэта трактавалі як суіцыд».*

Паводле яго слоў, інцыдэнт адбыўся каля двух тыдняў таму.

РЕГИСТРАТУРА

## Как на праздники будут работать больницы и поликлиники?

*График работы больничных организаций здравоохранения:*

22, 29 декабря – по графику работы в субботний день;

23, 30 декабря – по графику выходного дня;

24, 31 декабря – по графику рабочего дня;

25 декабря – по графику работы в праздничный день.

***График работы амбулаторно-поликлинических организаций здравоохранения, организаций переливания крови, санитарно-эпидемиологических, аптечных, медицинской техники, особого типа и иных:***

22, 29 декабря – по графику рабочего дня;

23, 30 декабря – по графику выходного дня;

24, 31декабря – по графику работы в субботний день;

25 декабря – по графику работы в праздничный день.

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

*У гэтай рубрыцы падаём у некаторым скарачэнні грунтоўны артыкул вядомага гісторыка, дасведчанага ў рэлігійнай тэме, журналіста Сяргея Абламейкі. Мяркуем, што інфармацыя дапаможа чытачам «Народнай Волі» дакладней арыентавацца ў апошніх падзеях, якія набылі актуальнасць у сувязі з вырашэннем пытання пра аўтакефалію для Украінскай праваслаўнай царквы і тым самым закранулі інтарэсы і беларускіх вернікаў у набыцці самастойнасці для сваёй царквы.*

# «Праваслаўныя беларусы – народ без сваёй царквы»

### Што ўкраінская аўтакефалія значыць для Беларусі

У Беларусі сёння няма ні аўтакефальнай, ні аўтаномнай праваслаўнай царквы. У кананічным сэнсе беларускія вернікі аб'яднаны ў Беларускі экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы. Ці патрэбна Беларусі царкоўная незалежнасць і ці мае краіна права на аўтакефалію?

### Кананічнае становішча экзархата

Беларускі экзархат РПЦ у 1990-я гады пры рэгістрацыі ў Рэспубліцы Беларусь атрымаў ад улад свецкую назву «Беларуская Праваслаўная Царква». Гэта некананічная назва, яна не нададзена экзархату царкоўнымі ўладамі. Сінод экзархата і яго кіраўнік (мітрапаліт) прызначаюцца ў Маскве.

У адрозненне ад Беларусі Украінская Праваслаўнай Царква Маскоўскага патрыярхату валодае пэўнай аўтаноміяй. Яна сама абірае Сінод. Члены сіноду абіраюць мітрапаліта, якога пасля ў Маскве зацвярджаюць.

Усе праваслаўныя цэрквы свету падзяляюцца на аўтакефальныя і аўтаномныя. З паўтара дзясяткаў аўтакефальных цэркваў дзевяць узначальваюцца патрыярхамі, астатнія – мітрапалітамі. Гістарычна склалася так, што незалежныя дзяржавы з пераважна або часткова праваслаўным насельніцтвам маюць свае аўтакефальныя памесныя цэрквы. Зрэдку, калі гаворка ідзе пра невялікую колькасць вернікаў, яны аб'яднаны ў аўтаномныя цэрквы ў складзе таго або іншага патрыярхату.

### Гістарычныя падставы беларускай аўтакефаліі

Ад часу прыняцця хросту ў X стагоддзі тэрыторыя сучаснай Беларусі была часткай Кіеўскай мітраполіі Канстанцінопальскага патрыярхату. У 1448 годзе гэтая мітраполія ў выніку палітычных і царкоўных канфліктаў канчаткова падзялілася на дзве – Маскоўскую і Кіеўскую, якую ад таго часу часцей сталі называць Літоўска-Наваградскай. У тым жа 1448 годзе Маскоўская мітраполія адпала ад Канстанцінопаля, бо не захацела прымаць Унію, якую тады вызнавалі Канстанцінопальскі патрыярх і візантыйскі імператар. Масква сама адкалолася ад Канстанцінопаля і пачала незалежнае існаванне. У 1589 годзе Маскоўская мітраполія стала патрыярхатам, атрымаўшы тады ад Канстанцінопаля аўтакефалію.

У 1596–1620 гадах адзіная памесная ўсходнехрысціянская царква ВКЛ, аб'яднаная ў Кіеўскую мітраполію, падзялілася на дзве часткі – праваслаўную і ўніяцкую.

У 1686 годзе праваслаўная частка Кіеўскай мітраполіі была захоплена Маскоўскім патрыярхатам. Старая традыцыя памеснасці захоўвалася толькі ўніяцкай царквой ВКЛ, па-ранейшаму аб'яднанай у Кіеўскую мітраполію (з цэнтрам у Навагradку, пазней у Вільні). У 1839 годзе і другая частка Кіеўскай мітраполіі, ужо ўніяцкая, была захоплена Маскоўскім патрыярхатам. Гэтак Беларусь і Украіна цалкам аказаліся ў складзе іншай памеснай царквы – Маскоўскага патрыярхату, да якога яны раней ніколі не належалі.

*Калі беларусам кажуць, што ў* ***1839*** *годзе іх вярнулі ў царкву-маці, гэта няпраўда. Беларусы тады са стратай сваёй памеснасці былі інкарпараваны ў РПЦ.*

### Спробы Кіеўскай мітраполіі вырвацца з абдымкаў Масквы

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ва Украіне і Беларусі разгарнуўся рух за незалежнасць іх праваслаўных цэркваў ад Масквы. У кастрычніку 1921 года ў Кіеве на Усеўкраінскім праваслаўным саборы была створана Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Ніводзін епіскап РПЦ не падтрымаў ідэю ўкраінскай аўтакефаліі, таму сабор абраў і пасвяціў у мітрапаліты айца Васіля Ліпкіўскага «ўсёй саборнай паўнатой» 472 дэлегатаў, як гэта некалі рабілася ў апостальскія часы. Такім чынам епіскапам стаў, напрыклад, апостал Павел.

У 1924 годзе патрыярх Канстанцінопальскі на просьбу праваслаўных украінцаў і беларусаў, якія апынуліся ў складзе Польшчы, надаў Польскай Праваслаўнай Царкве як часткі колішняй Кіеўскай мітраполіі (гэта значыць сваёй царкве-дачцэ) аўтакефалію.

### Абвяшчэнне аўтаноміі праваслаўнай царквы ў Беларусі

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года бальшавікі вельмі хутка пачалі пераслед Рускай Праваслаўнай Царквы, якая толькі-толькі паспела абраць сабе патрыярха, якога не мела з XVIII стагоддзя. Але ў маі 1922 года патрыярх Ціхан быў арыштаваны, і царква засталася без кіраўніка. У гэтых умовах беларускія праваслаўныя інтэлектуалы і царкоўныя дзеячы зрабілі спробу ўратаваць сваю царкву і ўмацаваць яе статус. У чэрвені ў Мінску была распаўсюджана «Адозва да праваслаўных вернікаў», якую падпісалі святары мінскай царквы Марыі Магдалены протаіерэі Стэфан Кульчыцкі і Уладзімір Біруля, а таксама Якуб Колас, Міхайла Грамыка, Сцяпан Некрашэвіч і іншыя.

10 ліпеня 1922 года ў Мінскім кафедральным саборы на сходзе гарадскога і сельскага духавенства з удзелам вялікай колькасці вернікаў была абвешчана аўтаномія праваслаўнай царквы ў Беларусі і створана Беларуская мітраполія ў межах тагачаснай БССР. Таксама былі ўтвораны Слуцкая, Бабруйская і Тураўская епархіі. Кіраўнік і ініцыятар сходу епіскап Мінскі і Тураўскі Мелхіседэк Паеўскі атрымаў тытул мітрапаліта Мінскага і Беларускага. Для кіравання царквой была створана Беларуская царкоўная ўправа ў складзе духоўных і свецкіх асоб.

Пасля абвяшчэння аўтаноміі нацыянальна-рэлігійнае жыццё пайшло такім парадкам, што выклікала трывогу ГПУ. Папулярнасць мітрапаліта Мелхіседэка набыла такія маштабы, што яго было вырашана спыніць. У жніўні 1924 года супраць яго і шасці іншых царкоўных дзеячаў была заведзена крымінальная справа нібыта за ўтойванне царкоўных рэчаў. У жніўні 1925 года Вярхоўны суд БССР асудзіў мітрапаліта Мелхіседэка да трох гадоў пазбаўлення волі, але ўмоўна. Гэта не задаволіла ГПУ, таму ў канцы 1925 года мітрапаліта выклікалі ў Маскву, там арыштавалі, пратрымалі нейкі час у Бутырцы і, ужо хворага на сухоты, выслалі ў Сібір.

### Абвяшчэнне аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы

У 1927 годзе пасля пакаяння мітрапаліта Сергія за абнаўленства і яго заявы пра згоду на супрацоўніцтва з савецкай уладай мітрапаліту Мелхіседэку дазволілі вярнуцца на радзіму ў спадзеве на будучае яго супрацоўніцтва з Сергіем. У маі мітрапаліт прыехаў у Маскву, але 4 чэрвеня зноў быў арыштаваны і пратрыманы ў турме да канца верасня, а пасля вывезены ў Краснаярск.

Не дачакаўшыся свайго кіраўніка, прыхільнікі Мелхіседэка ў Беларусі вырашылі дзейнічаць самастойна. 9 жніўня 1927 года ў Мінску пад кіраўніцтвам Бабруйскага епіскапа Філарэта Раменскага адбыўся з'езд святарства і вернікаў Беларусі, які прыняў рашэнне абвясціць аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы. У склад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ўвайшлі святары 192 парафій Мінскай епархіі, 100 – Бабруйска-Рагачоўскай, 60 – Мазырскай, 55 – Віцебскай, а таксама епіскап Бабруйскі Філарэт Раменскі і епіскап Слуцкі Мікалай Шамяціла. Гэта было больш за палову ўсіх праваслаўных парафій БССР. Астатняя, меншая, частка падзялялася паміж дзвюма іншымі юрысдыкцыямі – сергіеўцаў і абнаўленцаў.

Аўтакефальная царква праіснавала да ліпеня 1937 года, калі ўсе епіскапы і святары, якія на той час заставаліся на свабодзе, былі арыштаваны. 1 лістапада 1937 года епіскапы Філарэт Раменскі і Афанасій Вячорка, а таксама мноства святароў і актыўных вернікаў былі расстраляны ў Мінску як члены «контррэвалюцыйнай арганізацыі».

Слуцкі епіскап Мікалай Шамяціла быў арыштаваны яшчэ ў 1933 годзе.

Мітрапаліт Мелхіседэк памёр у 1931 годзе, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца ў Беларусь.

### Паўторнае абвяшчэнне аўтакефаліі

Пасля верасня 1939 года праваслаўныя парафіі ўсёй Беларусі аказаліся пад уладай мітрапаліта Сергія, які зацвердзіў двух іерархаў – мітрапаліта Панцеляймона Ражноўскага і епіскапа Бенядзікта Бабкоўскага.

Пасля прыходу немцаў быў высвечаны яшчэ адзін епіскап – былы варшаўскі архімандрыт Філафей Нарко. Таксама былі пасвячоны на епіскапаў Стэфан Сяўбо і Афанасій Мартас. Вось гэтыя ўладыкі і правялі з 28 жніўня па 2 верасня 1942 года ў Мінску Усебеларускі праваслаўны сабор, на якім быў зацверджаны «Статут Святой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы».

У 1944 годзе ўсе епіскапы БАПЦ (да іх ліку пасля сабору 1942 года далучылася яшчэ некалькі іншых) эмігрыравалі. А ў 1946 годзе гэтыя іерархі ўсе да аднаго здрадзілі БАПЦ і перайшлі ў склад замежнай Рускай праваслаўнай царквы.

Беларускія вернікі з ліку эмігрантаў з дапамогай Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1949 годзе аднавілі сваю беларускую іерархію і пасвяцілі ў мітрапаліты БАПЦ Васіля Тамашчыка. Гэтая царква да нашых дзён афіцыйна існуе ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі.

### Сучасны стан Беларускага экзархата РПЦ

Пасля Другой сусветнай вайны праваслаўныя парафіі Беларусі разам са святарамі зноў увайшлі ў склад Рускай праваслаўнай царквы. Уся тэрыторыя БССР увайшла ў адну епархію РПЦ – Мінскую. Астатнія, якія існавалі да вайны і падчас яе, былі скасаваны. Масква прызначыла аднаго епіскапа, які атрымаў тытул Мінскага і Беларускага. Першыя гады пасля вайны царква карысталася адноснай свабодай. Дзейнічала больш за 950 храмаў, якія абслугоўвалі 724 святары. Але ў канцы 1950-х гадоў пачалося новае наступленне на царкву і вернікаў. У 1963 годзе была зачынена Мінская духоўная семінарыя, к 1970 году засталося 380 парафій і адзін Жыровіцкі манастыр.

Царква знаходзілася ў поўнай залежнасці ад дзяржавы і КДБ. Вядомы выпадкі, калі з прычыны даносаў праваслаўных святароў ламаліся лёсы людзей.

У другой палове 1980-х гадоў на хвалі перамен у СССР пачалося разняволенне царквы. У 1989 годзе Маскоўскі патрыярхат заснаваў у Беларусі экзархат і прызначыў экзархам і мітрапалітам Філарэта Вахрамеева, які з 1978 года быў епіскапам Мінскім і Беларускім.

Паводле звестак афіцыйнага сайта Беларускага экзархата, у 2015 годзе ў Беларусі дзейнічалі 1612 парафій, 25 манастыроў, 15 епіскапаў, 1691 святар, 216 дыяканаў і 432 манахі і манашкі. Уся гэтая духоўная і культурная сіла цалкам скіравана на Маскву і «русский мир». У наш час беларускамоўныя набажэнствы зрэдчас праводзяць каля 10 парафій Беларускага экзархата РПЦ – найчасцей у Мінску і Гродне.

### Пазіцыя канстанцінопальскіх патрыярхаў

Пры наданні аўтакефаліі Польскай Праваслаўнай Царкве ў 1924 годзе было адзначана, што Канстанцінопальскі патрыярхат прызнае юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату толькі ў межах да 1686 года. У 1991 годзе Канстанцінопальскі патрыярх у лісце патрыярху Маскоўскаму зноў заявіў, што не прызнае Кіеўскую мітраполію за расійскай царквой. У 2006 годзе Канстанцінопальскі патрыярх Барталамей у Кіеве на Сафійскай плошчы зрабіў наступную заяву:

***«Мы афіцыйна прызнаём РПЦ толькі ў межах 1686 года, да паглынання Кіеўскай мітраполіі, якая з'яўляецца нашай дачкой, і, калі прыйдзе час, мы разгледзім пытанне аб яе самастойнасці».***

У 2018 годзе такі час надышоў. На пачатку верасня 2018 года Архірэйскі сабор (Сінакс) Канстанцінопальскага патрыярхату спецыяльнай пастановай пацвердзіў, што мае права надаць аўтакефалію Украіне без згоды Масквы. У пастанове таксама сцвярджаецца, што Канстанцінопаль мае права ствараць памесныя аўтакефальныя цэрквы ў незалежных дзяржавах усюды, дзе гэта спатрэбіцца ў будучыні.

### Што аўтакефалія можа даць Беларусі

Пасля канчатковай страты беларускім народам сваёй памеснай царквы ў форме грэка-каталіцкай часткі Кіеўскай мітраполіі ў 1839 годзе пачалася цывілізацыйная пераарыентацыя беларускай народнай душы.

Незалежная беларуская царква, якая існавала з X стагоддзя, ужо ў XIV–XVI стагоддзях вельмі моцна адрознівалася ад маскоўскай царквы вонкавымі формамі набажэнства – архітэктурай храмаў, абразамі, царкоўнымі спевамі і сваім варыянтам гучання царкоўна-славянскай мовы. Былі адрозненні і ў формах духоўных практык. У 1839 годзе пачалося пранікненне «русского мира» ў беларускую душу. Беларускія праваслаўныя і ўніяцкія храмы груба перабудоўваліся на расійскі манер. Але галоўнае – ідэалогія, змест казанняў. Менавіта святары РПЦ у апошнія 170 гадоў з'яўляюцца тым чыннікам, які злучае беларускія галовы і душы з Расіяй і «русским миром».

У выпадку надання аўтакефаліі ў беларускіх галовах магла б замацавацца ідэя сваёй духоўнай незалежнасці і самастойнасці. Іншымі словамі, менавіта аўтакефалія можа рэальна адарваць Беларусь ад Расіі. І менавіта таму праваслаўныя беларусы яе не маюць.

### Перспектывы

Відавочна, што гістарычныя і кананічныя падставы для аўтакефаліі ў Беларускай Праваслаўнай Царквы ёсць. Іншая справа, ці ёсць такое жаданне ў саміх вернікаў, святароў і епіскапаў гэтай царквы? Рэальных перспектыў для Беларусі атрымаць сваю аўтакефальную царкву ў агляднай перспектыве няма. Відавочна, што чым далей ад Расіі будзе аддаляцца Украіна, тым большым будзе жаданне Масквы захаваць пад сваім кантролем Беларусь. Просьбы аб аўтакефаліі да царквы-маці звычайна падтрымлівае дзяржаўная ўлада. Гэтак было ў 1924 годзе ў Польшчы, гэтак ёсць і сёння ва Украіне. У Беларусі такой просьбы ад сённяшняй дзяржаўнай улады, як і ад царквы, чакаць нельга. Для змены сітуацыі з беларускай аўтакефаліяй патрэбны два чыннікі. Па-першае, змена ўлады ў Беларусі і выбар краінай дэмакратычнага шляху развіцця. Па-другое, аслабленне «жалезнай хваткі» Масквы.

(Радыё Свабода.)

